MICRO-SERIES

IDW

#3 • CVR A

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

CIARAMELLA
WACHTER

OLD HOB

BY COMICS

ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ.
МІКРАСЕРЫЯ #11
ЗЛОДЗЕІ: СТАРЫ НЯЧЫСЦІК
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

# ПРАДГІСТОРЫЯ

СТАРЫ НЯЧЫСЦІК АДНОЙЧЫ ПАТРАПІЎ НА ПАЦУКА СПЛІНТЭРА І ЧАРАПАХ. ВАРОЖАСЦЬ МІЖ ІМІ ПАЧАЛАСЯ ЯШЧЭ ДА КАНТАКТА З МУТАГЕНАМ. АЛЕ І ПАСЛЯ МЕТАМАРФОЗАЎ З ІХ ФІЗІЧНЫМ СТАНАМ МУТАНТ ПРАЦЯГВАЎ ПАЛЯВАННЕ НА ПАЦУКА. У ГЭТЫМ ВЫПУСКУ САМ СТАРЫ НЯЧЫСЦІК РАСКАЗВАЕ ЎЛАСНУЮ ГІСТОРЫЮ ЖЫЦЦЯ АД МАЛЕНСТВА ДА САЮЗА З ЧАРАПАШКАМІ.







ВЕДАЕШ, У ЧЫМ НАША ПРАБЛЕМА?


У ЛЮДЗЯХ...


ТАБЕ НЕ ТАК ЧАСТА ДАВОДЗІЛАСЯ МЕЦЬ З ІМІ СПРАВЫ, І ГЭТА ДОБРА.
ТЫ НІКОЛІ НЕ БЫЎ НЕЧЫМ ЗВЯРКОМ...


...І НА ГЭТА ЁСЦЬ ПРЫЧЫНА.
ПРОСТА ПАГЛЯДЗІ НА СЯБЕ. ТЫ ВІДАВОНА НЕ МЯККІ І ПУХНАТЫ.


А ВОСЬ Я ШМАТ РАЗОЎ МЕЎ СПРАВЫ З ЛЮДЗЬМІ. НАВАТ ЗАНАДТА ШМАТ.
ШЧЫРА КАЖУЧЫ...


...БЫЎ ЧАС, КАЛІ ЧАЛАВЕК БЫЎ АДЗІНЫМ, КАГО Я ВЕДАЎ І КАМУ ДАВЯРАЎ У ГЭТЫМ СВЕЦЕ.


ЯГО ЗВАЛІ БІЛЛІ, ЦІ ДЭННІ... НЕ ВЕДАЮ, МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА ТЫЯ ДНІ ЯК У СМУЗЕ. ТЫМ НЕ МЕНШ, МЫ ДАПАЎНЯЛІ АДЗІН АДНАГО ЯК МАЯНЭЗ І ТУНЕЦ.


ШМАТ ЕЖЫ, ЦЁПЛЫЯ КУТКІ ДЛЯ ДРЫМОТЫ І СТОЛЬКІ ГУЛЬНЯЎ, КОЛЬКІ Я МОГ ВЫТРЫМАЦЬ – ЧАГО ЯШЧЭ МОЖНА БЫЛО ЖАДАЦЬ, САПРАЎДЫ?


УСЁ ІШЛО ЦУДОЎНА, ПАКУЛЬ АДНОЙЧЫ...
БІЛЛІ! ЦЯГНІ СЮДЫ СВОЙ ГУЛЬТАЯВАТЫ АЗАДАК, ХУТКА!


КОЛЬКІ РАЗОЎ ТАБЕ БЫЛО СКАЗАНА?! КОЛЬКІ РАЗОЎ Я ПАПЯРЭДЖВАЛА НА ГЭТЫ КОНТ?! УСЯ КУХНЯ ВАНЯЕ КАЦІНЫМ ТУАЛЕТАМ!


ПРАБАЧ, МА... Я ЗНОЎ ЗАБЫЎ. Я БОЛЬШ НЕ...
ЧОРТ БЯРЫ! ВОСЬ УЖО ДАКЛАДНА ТЫ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕШ!


ДЗЕ ЁН?! ДЗЕ ТАМ ГЭТЫ БЛЫХАСТЫ МЯШОК?!
МАМ, НУ НЕ ТРЭБА, КАЛІ ЛАСКА... У ІНЫ РАЗ НЕ ЗАБУДУ! ЧЭСНА!


Я ЧУЛА ГЭТА ЗНОЎ І ЗНОЎ, БІЛЛІ, А ТЫ ТАК І НЕ ЗМОГ ВЫВУЧЫЦЬ, ШТО ТРЭБА МЯНЯЦЬ БРУДКІ КАЦІНЫ ЛАТОК! З МЯНЕ ХОПІЦЬ!
СТОЙ, ЯМУ БАЛЮЧА!


НЕ! НЯЧЫСЦІК!


НЕ ТРЭБА, МАМ! ЁН ЖА ТАМ ПАМРЭ!
ТОЛЬКІ ПА ТВАЁЙ ПРАКЛЯТАЙ ВІНЕ...




НЕ!




ТАК І СКОНЧЫЛАСЯ ПАПЯРЭДНЯЕ ЖЫЦЦЁ.


ЖЫЦЬ НА ВУЛІЦЫ БЫЛО ЦЯЖКА. Я ЎЖО НЕ МОГ РАЗЛЁЖВАЦЦА ПАД СОНЦАМ ЦІ ГУЛЯЦЦА З КЛУБКОМ.


У ЧЫМ ПЛЮС ЖЫЦЦЯ Ў ТАКІМ ГОРАДЗЕ? ЗАЎСЁДЫ ЁСЦЬ, ШТО ПАЕСЦІ, КАЛІ ВЕДАЕШ, ДЗЕ ШУКАЦЬ.


А МУНІС? ТЫ АМАЛЬ НІКОЛІ НЕ БЫВАЕШ АДЗІНЫМ, ХТО ШУКАЕ ЕЖУ.




Я ХУТКА ЗРАЗУМЕЎ, ШТО КАЛІ ХАЧУ ШТОСЬЦІ ТУТ АТРЫМАЦЬ, ПАВІНЕН АДВАЁЎВАЦЬ ГЭТА.


І КАЛІ БАЧЫШ НЕШТА ПАЖА-
ДАНАЕ, ТАДЫ ЛЕПШ БУДЗЬ
ГАТОВЫ СХАПІЦЬ ГЭТА.


ЕЖА ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЕЦЦА
ЕЖАЙ, НАВАТ КАЛІ ЯНА –
МЯРЗОТНАЯ ЗЯЛЁНАЯ ХРЭНЬ.


АЛЕ Ў МЯРЗОТНАЙ ЗЯЛЁНАЙ
ХРЭНІ АДШУКАЎСЯ ПАРШЫВЫ
ДРОБНЫ ЗАСТУПНІК.


ТОЙ ЗЯЛЁНЫ БРУД
ПЁК МНЕ ПАШ-
ЧУ, ЧЫМ ЗБІЛА
З ПАНТАЛЫКУ І
ДАЗВОЛІЛА ПАЦУКУ
ПЕРАМАГЧЫ...




МНЕ І РАНЕЙ ДАСТАВАЛАСЯ... ПАРУ РАЗОЎ
НАВАТ МОЦНА. АЛЕ ЗАРАЗ УСЁ БЫЛО ІНАЧ.
ШТОСЬЦІ ПАЙШЛО НЕ ТАК...

НЕ ВЕДАЮ, ЯК ГЭТА АДБЫВАЛАСЯ З ТАБОЙ... ТАБЕ Ж КАЛОЛІ ГЭТУ ХРЭНЬ ІГЛАМІ, ТАМУ, МАШЧЫМА, У НАС УСЁ БЫЛО ПА-РОЗНАМУ.

ГЭЙ! Я НЕ ШУКАЮ НЕЧАЙ КАМІЗЭЛЬЦЫ, КАБ ПАПЛАКАЦЬ!

ПРОСТА, ГЭТА ГІСТОРЫЯ ВАЖНА – ТЫ ПАВІНЕН ЗРАЗУМЕЦЬ, З ЧЫМ МЫ СУТЫКНУЛІСЯ І ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ, ЗРАЗУМЕЛА?

ДЫК ПРА ШТО Я ТАМ?

АХ ТАК.

Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ПАДЫХАЮ... АЛЕ АТРЫМАЛАСЯ ІНАЧ...

УСЁ, ШТО Я ЗАПОМНІЎ – БОЛЬ. МЯНЕ БЫЦ-ЦАМ ПРАПУСЦІЛІ ПРАЗ МЯСАСЕЧКУ – Я ВАЙШОЎ У ЯЕ АДНЫМ...

...А ВЫЙШАЎ АБСАЛЮТНА ІНШЫМ.


КАЛІ Я АЧУЎСЯ, НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО ГЭТА БЫЛА ЗА ЧАРТАЎНЯ. ВОСЬ Я ЛАЎЛЮ СВОЙ АБЕД, ЯК У НАСТУПНАЕ ІМГНЕННЕ МНЕ ВЫЦАРАПВАЕ ВОКА БРУДКІ ПАЦУК. А ЗАРАЗ ЯШЧЭ І ГЭТА, ЧЫМ БЫ ЯНО НІ БЫЛО...


Я ВЕЛЬМІ ВЫРАС...


А ЗАМЕСТ МАІХ ЛАП, З'ЯВІЛІСЯ РУКІ...


І РАПТАМ, УСЁ СТАЛА ЗУСІМ ДЗІЎНЫМ.
ХА! ДЫ НЯЎЖО, МІСТАР АЛЕН?


А СКАЖЫЦЕ, ЯК МЫ ЗНОЙДЗЕМ ГЭТАГА ВАШАГА «СПЛІНТЭРА» У ВЯЛІЗНЫМ ГОРАДЗЕ, ЯКІ КІШЫЦЬ МІЛЁНАМІ І МІЛЁНАМІ ПАЦУКОЎ?


Я ВУШАМ СВАІМ НЕ ПВЕРЫЎ... ТЫЯ ГУКІ, ШТО СЫХОДЗЯЦЬ З ВУСНАЎ ЛЮДЗЕЙ І НІЧОГА ДЛЯ МЯНЕ НЕ ЗНАЧАЦЬ... А ЗАРАЗ Я ЗДОЛЬНЫ ІХ РАЗУМЕЦЬ.


ЯНЫ АБМЯРКОЎВАЛІ ПАЦУКА, І Я АДЧУЎ, ШТО МЕНАВІТА ТОГА, З ЯКІМ Я ПАСПРАЧАЎСЯ.


Я МАГУ ДАПАМАГЦІ З ГЭТЫМ...


ХАЧУ ВЕДАЦЬ ТОЛЬКІ АДЗІНУЮ РЭЧ.
ГЭТЫ БРУДКІ ПАЦУК ПАВІНЕН БЫЦЬ ЖЫВЫМ, КАЛІ Я ВАМ ЯГО ПРЫЦЯГНУ?


О БОЖА...

ЯК Я ЎЖО СКАЗАЎ, Я НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО ГЭТА БЫЛА ЗА ЧАРТАЎНЯ. Я РАСКАЗАЎ ТАМУ МУЖЫКУ, БАКСТАРУ, ПРА ПАЦУКА І ЧАРАПАХ, І ЁН ВЕЛЬМІ ЗАЦІКАВІЎСЯ.

ЁН СКАЗАЎ, ШТО З ІМ Я БУДУ Ў БЯСПЕЦЫ, ШТО АБА МНЕ ДОБРА ПАКЛАПАЦЯЦЦА... ПРАВЯДУЦЬ СЕРЫЮ ТЭСТАЎ, КАБ УДАКЛАДНІЦЬ, ШТО Я ЗДАРОВЫ. Я НЕ ЛІЧЫЎ, ШТО МЕЎ ІНШЫ ВЫБАР.

НЕ ЎСЕ ТЭСТЫ БЫЛІ ДРЭННЫЯ – НЕКАТОРЫЯ НАВАТ ДАПАМАГЛІ МНЕ ЗВЫКНУЦЦА ДА НОВАГА ЦЕЛА.

АЛЕ БОЛЬШАСЦЬ З ІХ БЫЛІ ПАЦЕШНЫМІ.

Я НЕНАВІДЗЕЎ ЯГО МАНЕ-РУ НАЗІРАЦЬ БЕЗ ЭМОЦЫЯЎ. ГЭТА НАВОДЗІЛА НА ДУМКУ, ШТО ЁН ШМАТ ЧАГО ПРА СЯБЕ ЯШЧЭ НЕ СКАЗАЎ.

РАНЕЙ АБА МНЕ КЛАПАЦІЛІСЯ, І ГЭТА НІ З ЧЫМ НЕМАГЧЫМА БЫЛО ПАРАЎНАЦЬ.

Я ПРАБЫЎ У ІХ АМАЛЬ МЕСЯЦ, І КОЖНЫ ДЗЕНЬ ПРАЦЯГВАЎ ЧУЦЬ, ЯК УСЕ БАЛАБОЛЯЦЬ ПРА «РЭЧЫВА» ЦІ ПРА «МУТАГЕН».

КАЛІ ЯНЫ НЕ ЗАЙМАЛІСЯ МНОЙ, ГУЛЯЛІСЯ З НЕЙКІМ З ГЭТЫХ ДВУХ ПРЭПАРАТАЎ.

І ПАВЕР, Я БЫЎ ЦАЛКАМ УВАЖЛІВЫ. ТОЕ «РЭЧЫВА» ВАЛОДАЛА ЧЫМСЬЦІ НАКШТАЛТ ГАЮЧАЙ СІЛЫ. І З'ЯЎЛЯЛАСЯ АСНОЎНЫМ ІНГРЫДЫЕНТАМ МУТАГЕНА. БАКСТАР ПАВЕДАМІЎ, ШТО ГЭТА РЭЧ МЯНЕ І ЗМЯНІЛА. НІЧОГА ІНШАГА З ІХ БАЛБЫТНІ Я НЕ РАЗУМЕЎ – АДНО ТЭХНІЧНАЕ ЛАЙНО.

АЛЕ! Я ПАЗНАЮ КОЗЫР, КАЛІ ЯГО БАЧУ.

БАКС ЛІЧЫЎ, ШТО МОЖА ТВАРЫЦЬ СА МНОЙ ШТО ХОЧА, БО МНЕ СТРАШНА. Я СПЕЦЫЯЛЬНА ДАЗВАЛЯЎ ЯМУ ТАК ДУМАЦЬ... ЗАСМУГОЎВАЎ ВОЧЫ...

...А САМ У ТОЙ ЖА ЧАС ПАЧАЎ ВЫДУМЛЯЦЬ СПОСАБ УЦЁКАЎ – ЗРАБІЦЬ ХОД, ТАК СКАЗАЦЬ. Я СТАМІЎСЯ БЫЦЬ ЯГО ЛАБАРАТОРНЫМ ПАЦУКОМ...

...А ЯШЧЭ, ПАВІНЕН БЫЎ АДПОМСЦІЦЬ.


ТВАЕ ТЭСТЫ НА РЭФЛЕКСЫ І СІЛУ ДАЛІ ДЗІЎНЫЯ ВЫНІКІ, НЯЧЫСЦІК. ТЫ СТАНОВІШСЯ БОЛЬШ СПРЫТНЫМ І МАЦНЕЙ-ШЫМ З КОЖНЫМ ДНЁМ.


Я АДЧУВАЮ СЯБЕ ВЕЛЬМІ ДОБРА.
ТАМУ МАБЫЦЬ ВЫПУСЦІЦЕ МЯНЕ З ГЭТАЙ ДЗІРЫ НА КАРОТКІ ЧАС? ВЫ ЖА ХАЦІЦЕ ЗНАЙСЦІ ТАГО ПАЦУКА, ТАК?


НЕМАГЧЫМА. ТРЭБА ПРАЙСЦІ ЯШЧЭ МНОСТВА ТЭСТАЎ. ВОСЬ ТАК АДПУШЧАЦЬ ЦЯБЕ НА ВУЛІЦЫ – ВЯЛІКАЯ АДКАЗ-НАСЦЬ. ЗАБУДЗЬ.


Я ЎСЁ ЯШЧЭ АДЧУВАЮ ПАХ ТОЙ БРУДКАЙ ЖЫВЁЛІНЫ. БУДЗЕ НЕКЛОПАТНА. БУДУ ТРЫМАЦЦА ЗАВУЛКАЎ І СХАПЛЮ ЯГО.
ДА ТАГО Ж...


...НЯЎЖО ВАМ НЕ ПАТРЭБНЫ НОВЫ АБ'ЕКТ ДЛЯ ДОСЛЕДАЎ?
ХМММ...


Я АБМЯРКУЮ ГЭТА...




ДОЎГА РАЗВАЖАЦЬ ЯМУ НЕ ПРЫЙШЛОСЯ. ЁН ВЕДАЎ, ШТО ВЫПУСКАЦЬ МЯНЕ – ГЭТА РЫЗЫКОЎНА, АЛЕ Я БЫЎ ЯГО ЛЕПШЫМ ВА-РЫЯНТАМ АДШУКАЦЬ ПАЦУКА, А ГЭТА БЫЛО ДЛЯ СТАРОГА БАКСІ ЗАНАДТА ВЯЛІКАЙ СПАКУСАЙ.
ALL BEEF HOT DOGS
БАКС СКАЗАЎ, ШТО ДАСЦЬ МНЕ НАЯЎНЫХ, КАЛІ ТРЭБА. ТОЛЬКІ Я ПАВІНЕН БУДУ ЗАХОДЗІЦЬ ЗА ІМІ Ў ЛАБАРАТОРЫЮ.


АЛЕ ХТО Ж ВОЗЬМЕ ГРОШЫ Ў ТАКОЙ МАЛПЫ, ЯК Я? ТАМУ Я ВЫЖЫВАЎ АДЗІНЫМ СПОСА-БАМ, ЯКІ ВЕДАЎ.


ГЭТА ПРЫВЯЛО ДА ДУМКІ, ШТО КАЛІ ПАЦУК У НЕЧЫМ ПАДОБНЫ НА МЯНЕ, СХАПІЦЬ ЯГО БУДЗЕ СКЛАДАНА.


НЕ ЗРАЗУМЕЙ МЯНЕ НЯПРАВІЛЬНА, Я НЕ СПУЖАЎСЯ. АЛЕ Я І НЕ ДУР-НЫ. У ГЭТЫМ ЖЫЦЦІ ТРЭБА БЫЦЬ ГАТОВЫМ ДА ЎСЯГО.


ПАРА ДАДАТКОВЫХ ПАПЛЕЧНІКАЎ НЕ ПЕРАШКОДЗІЛА Б. АЛЕ ЯК УПЭЎНІЦЬ ЛЮДЗЕЙ ДАЛУЧЫЦЦА ДА МЯНЕ?
ТЫ – МЯРЦВЯК, СЯБРУК...


WHAM


ЗАРАЗ ЯК...


THWOK


БОЖА, ШТО ГЭТА ТАКОЕ?


НЕЙКАЯ... ПАЧВАРА!
І ТУТ МЯНЕ НЕЧАКАНА АХІНУЛА. БАКС І ЯГО «БАТАНІКІ» З ЛАБАРАТОРЫІ НЕ БАЯЛІСЯ МЯНЕ, БО СТВАРЫЛІ ПРАКТЫЧНА ЎЛАСНЫМІ РУКАМІ. АЛЕ ДЛЯ ІНШЫХ ЛЮДЗЕЙ Я – ПАЧВАРА.


Я ВЕДАЎ ТОЛЬКІ АДНО – ЧЫМ ТЫ БУЙНЕЙШЫ І СТРАШЭННЕЙ, ТЫМ БОЛЬШ ПАВАГІ АТРЫМЛІВАЕШ. ДОБРАЯ ГРАШОВАЯ СТЫМУЛЯЦЫ (ДЗЯКУЮЧЫ БАКСТАРУ) – І Я ЗАВЕРБУЮ СТОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ, КОЛЬКІ ТРЭБА, КАБ ЗЛАДЗІЦЬ З ПАЦУКОМ.
Я ЗБІРАЎСЯ ЗРАБІЦЬ ТАК, КАБ НІКОЛІ НЕ ЗАСТАЦЦА АДЗІНОКІМ І БЕЗДАПАМОЖНЫМ.










ГАРАНТЫЯ ГВАЛТУ І ВЫПЛАТ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ МЯНЕ ТЫМ ТЫПАМ ЛЮДЗЕЙ, ШТО Я ШУКАЎ.

ТЫМІ, ХТО ЗРОБЯЦЬ УСЁ, ШТО ЗАГАДАЕШ, НЕ ВАЖНА НАКОЛЬКІ ГЭТА ГЛУПА ЦІ НЕБЯСПЕЧНА.

І, ТРЭБА ЗГАДЗІЦЦА, У ІХ НЕБЫЛО НЕДАХОПУ.

МЫ РАЗМІНАЛІ КУЛАКІ, РЫХ-ТУЮЧЫСЯ ДА САПРАЎДНАЙ СПРАВЫ – ПАЛЯВАННЮ НА ТОГА ПАЦУКА.

МАНІЦЬ НЕ БУДУ: ТЫЯ БОЙКІ БЫЛІ ЧАРТОЎСКІ ЗЫБЫМІ.


Я ВЯРНУЎСЯ Ў ЛАБАРАТОРЫЮ, ПАКАЗАЦЬ БАКСТАРУ, ШТО ПАДАЙШОЎ ДА СПРАВЫ СУР'ЁЗНА. Я ХАЦЕЎ, КАБ ЁН УБАЧЫЎ МЯНЕ І МАІХ РАБЯТ.

ЁН ПАВІНЕН БЫЎ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТЫЯ ДЗЯНЬКІ, КАЛІ ЁН ТЫКАЎ МЯНЕ ІГЛАМІ І САДЖАЎ У КОЛА ДЛЯ ХАМЯКОЎ, У МІНУЛЫМ!


КАНЕЦ БОЛЮ...


МЕНАВІТА ТАК, ГРАМІЛА. КАНЕЦ. ЧАСЫ, КАЛІ МЫ БЫЛІ ПАДДОСЛЕДНЫМІ ПАЦУКАМІ, СКОНЧАНЫЯ. РАЗУМЕЕШ?


ДАРЭЧЫ ПРА ПАЦУКОЎ... ПАСЛЯ НАВЕДВАННЯ БАКСТАРА МЫ АДРАЗУ АДПРАВІЛІСЯ ШУКАЦЬ КЛЯТАГА ГРЫЗУНА.
Я ПАМЯТАЮ ТОЙ МОМАНТ, КАЛІ ЎПЕРШЫНЮ ЎБАЧЫЎ ІХ РАЗАМ...

І НІКОЛІ ЯГО НЕ ЗАБУДУ...

Я ВЕДАЎ, ШТО ЯНЫ РЭАЛЬНЫ, АЛЕ СУСТРЭЦЬ ІХ ВОСЬ ТАК, УСІХ РАЗАМ... ЦЯЖКА БЫЛО ПАВЕРЫЦЬ.

Я ПАВІНЕН БЫЎ ВЯРНУЦЬ ПАЦУКУ ДАЎЖОК, АЛЕ Ў ГАЛАВЕ КРЫЖЫЛІСЯ РОЗНЫЯ ДУМКІ.

ВОРАГІ БЫЛІ КАМАНДАЙ... СЯМ'ЁЙ.

І ГЭТА ЗЛАВАЛА МЯНЕ ЯШЧЭ БОЛЬШ.


ШМАТ ВАДЫ ЎЦЯКЛО, ШМАТ ЗМАГАННЯЎ БЫЛО ПРАЙГРАНА, І Я ПАЧАЎ РАЗВАЖАЦЬ... А ШТО Ў МЯНЕ НАОГУЛ ЁСЦЬ?


МЫ ЗАВЯЗВАЕМ З ГЭТЫМ, НЯЧЫСЦІК – ТЫ МАЛАВАТА ПЛОЦІШ НАМ ЗА ГЭТАЕ ЛАЙНО! ПАГЛЯДЗІ НА НАС! МЫ НЕ МАЕМ ШАНСАЎ СУПРАЦЬ ГЭТЫХ ВЫРАДКАЎ...


ВЫРАДКАЎ?! ГЭТА ТАК ВЫ, ДУРНІ, МЯНЕ «ЗА СПІНОЙ» КЛІЧАЦЕ?


КАЛІ Б У ВАС, СТАТАК КУР, БЫЛА КІШКА НЕ ТОНКАЙ, МЫ Б ЗМАГЛІ ЗАВАЛІЦЬ ПАЎДОХЛЫХ ЧАРАПАХ! АЛЕ ВЫ – БАЯЗЛІЎЦЫ! ТАМУ, КАЛІ ХОЧАЦЕ ЎЙСЦІ, ВЫМЯТАЙЦЕСЯ!
ТУТ ВАМ НЕ ДЗІЦЯЧЫ САДОК!


СУТНАСЦЬ ПАЧАЛА ПРАЯЎЛЯЦЦА. Я БЫЎ ПАДОБНЫ НА ТЫХ ЧАРАПАХ І ПАЦУКА, АЛЕ АДРОЗНІВАЎСЯ... ТЫМ, ШТО БЫЎ АДЗІН.

ЯК ТАМ КАЖУЦЬ?
«ПАДМАНІШ МЯНЕ АД-
НОЙЧЫ – ГАНЬБА ТАБЕ,
А КАЛІ ДВОЙЧЫ...»?










...ЁН ДУМАЎ, ШТО Я Ў ЯГО ЎЛАДЗЕ, АЛЕ СТАРОМУ НЯЧЫСЦІКУ НІХТО НЕ ЗАГАДЧЫК.






ПАМЯТАЕШ, ШТО Я СКАЗАЎ ТАБЕ ПРА КОЗЫР?
КАЛІ Я ЗЛАВІЎ ПАЦУКА, Я БЫЎ АДЗІН У ТОЙ ЛАБАРАТОРЫІ. БЫЦЦАМ ДЗІЦЯ Ў КАНДЫТАРСКАЙ.


КАЛІ МЯНЕ Ў ЁЙ ТРЫМАЛІ, Я ПАДСЛУХАЎ ДАСТАТКОВА І ВЕДАЎ, ШТО КРОЎ ПАЦУКА ЎТРЫМОЎВАЕ ЛЕДЗЬ НЕ ЗОЛАТА. УЗЯЎ ТРОХІ НА ЧОРНЫ ДЗЕНЬ. І РЭЧЫВА ТАК САМА.
БАКС ЛІЧЫЦЬ МЯНЕ ТУПОЙ ЖЫВЁЛАЙ, АЛЕ Я ЗАЎСЁДЫ АПЯРЭДЖВАЎ ЯГО НА КРОК. І ЦЯПЕР ПАКАЖУ ЯМУ НА ШТО ЗДОЛЬНЫ.


Я СЫТЫ ПА ГОРЛА ЛЮДЗІШКАМІ... ГЭТЫМІ СЛАБЫМІ, НІКЧЭМНЫМІ МЯСНЫМІ ТУШАМІ. ІМ НЕЛЬГА ВЕРЫЦЬ, НА ІХ НЕЛЬГА СПАДЗЯВАЦЦА.
Я АДЗНАЧЫЎ ДЛЯ НАС ПЛАНЫ. І ВЯЛІКІЯ...

...І ЎВЕСЬ ГЭТЫ ГОРАД УЗДРЫГАНЕЦЦА АД ЖАХА, КАЛІ ЎБАЧЫЦЬ, ШТО СЮДЫ НАСОЎВАЕЦЦА.

Ё, НЯЧЫСЦІК! У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ДЗВЕ ХВІЛІНЫ, НЕ ЎКЛЮЧЫЛАСЯ МАЯ РАЗВАЖЛІВАСЦЬ!







...У НАС ЁСЦЬ СПРАВА ДА ГЭТЫХ ХЛОПЦАЎ.

ПРАЦЯГ У НУМАРЫ 23!